КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 26 (347) ◂ 5 ліпеня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**МІКОЛА СТАТКЕВІЧ**

Стар. 5

**СПРАВЯДЛІВАСЦЬ І ТРУБА**

Галоўная ўмова паспяховай канкурэнцыі на знешнім рынку — наяўнасць паўнавартаснага ўнутранага рынка, г. зн. рынка, які ўключае эканамічны, палітычны і сацыяльны складнікі

Стар. 4

**ЕГІПЕТ: КРЫЗІС ІСЛАМІСТАЎ**

Крызіс рэжыму егіпецкага прэзідэнта Мурсі можна таксама лічыць глабальным ударам па дактрыне палітычнага ісламу

Стар. 13

**УКРАІНЕЦ, ЯКІ ПРАЦАВАЎ НА БЕЛАРУШЧЫНУ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**ВЫ ЯШЧЭ МОЖАЦЕ ПАСПЕЦЬ АФОРМІЦЬ ПАДПІСКУ НА ІІ ПАЎГОДДЗЕ**

▸ **З НАГОДЫ**

# ІП — УРАД: НЯРОЎНАЯ ДУЭЛЬ

Сяргей ПУЛЬША

**Улады нібыта пагадзіліся не ўводзіць тэхрэгламент і пачакаць яшчэ год. Але прадпрымальнікі гэтым не задаволеныя. 27 чэрвеня ўжо прайшоў агульнанацыянальны страйк, а на 15 ліпеня ў Мінску запланаваны прадпрымальніцкі марш.**




Заяўка на яго правядзенне ў Мінгарвыканкам пададзеная. Плануецца, што ў сувязі з маршам у гэты дзень таксама не будуць працаваць рынкі.

Паводле тэхрэгламенту, ІП павінны здаваць на экспертызу частку з кожнай партыі тавару, якая не будзе ім вернутая. У сувязі з гэтым астатняя частка значна падаражэе, а асартымент тавараў звузіцца.

Прадпрымальнікі дамагліся таго, што ўвядзенне тэхрэгламенту адкладзенае да 1 ліпеня наступнага года. Але, паколькі дакумент аб адтэрміноўцы рыхтаваўся ў вялікай спешцы, у ім, як заўсёды, нарабілі памылак. Здаецца, нават больш крытычных, чым сам тэхрэгламент.

Па-першае, кожны прадпрымальнік павінен даваць кожнаму пакупніку даведку, што прадукцыя, якую ён прадае, не прайшла сертыфікацыю Мытнага саюза, і што ён абавязваецца ў выпадку прэтэнзіяў вярнуць грошы альбо абмяняць тавар на якасны. Прадпрымальнікі назвалі гэта глупствам, бо ўзору адзінай даведкі да такога рашэння не дадаецца, а само правіла вярнуць грошы альбо абмяняць рэч дзейнічае і без усялякіх папер згодна з заканадаўствам аб абароне правоў спажыўцоў.

Па-другое, адтэрміноўка сертыфікацыі прадстаўляецца тым ІП, якія маюць на руках дакументы на набыццё тавару. Між тым, дзейсныя акты заканадаўства такіх дакументаў для ІП не патрабуюць. Сапраўды, калі ІП набыў партыю тавару для рэалізацыі на аптовых рынках той жа Расіі, хто там будзе даваць сапраўдныя накладныя на тавар? Там проста падымуць прадпрымальніка на смех.

Па-трэцяе, некалі наша ўлада вельмі клапацілася, каб загнаць індывідуальных прадпрымальнікаў у межы прыватных унітарных прадпрыемстваў. Зараз гэты «дзяржаўны клопат» выходзіць бокам, бо адтэрміноўка сертыфікацыі тычыцца толькі ІП — плацельшчыкаў адзінага падатку. ПУПаў яна не тычыцца ніяк.

Між тым, кантрольныя органы пачнуць праверку прадпрымальнікаў на «сертыфікацыю» ўжо з 1 лістапада гэтага года. Першы намеснік старшыні Дзяржкамітэта па стандартызацыі Валерый Гурэвіч заявіў, што гэта будзе «выключна маніторынг таго, што прадаюць індывідуальныя прадпрымальнікі на рынку». Паводле ягоных слоў, маніторынг не прадугледжвае імгненных мер уздзеяння на прадпрымальніка, а ёсць толькі зборам неабходнай інфармацыі, для таго, каб розныя міністэрствы маглі вызначыцца, ці трэба карэктаваць выдадзеныя раней пастановы і ці прымаць дадатковыя дакументы.

Тэлеканал АНТ, які перадаў гэтую навіну, заявіў, што на беларускіх рынках будуць вялікія зніжкі, бо ІП, якія працуюць з таварамі лёгкай прамысловасці, павінны прадаць увесь несертыфікаваны тавар да лістапада 2013 года. Выглядае як здзек з прадпрымальнікаў і прыбытак на чужой бядзе.

У сувязі з гэтым і прайшоў страйк прадпрымальнікаў 27 чэрвеня. Па дадзеных Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальнікаў, на працу ў гэты дзень не выйшла каля 70% ІП па ўсёй Беларусі. А 28 чэрвеня, як ужо і казалася, у Мінгарвыканкам была пададзеная заяўка на тое, каб правесці ў сталіцы «Марш прадпрымальнікаў».

Варта канстатаваць, што папярэднія акцыі такога кшталту былі выніковымі. Напрыклад, 10 снежня 2008 года прайшоў аднадзённы страйк прадпрымальнікаў супраць планаванага скасавання льготнага рэжыму ўвозу тавараў з Расіі. 15 снежня таго ж года ў сталіцы таксама прайшоў санкцыянаваны «Марш прадпрымальнікаў». У ім прынялі ўдзел каля дзвюх тысяч прадпрымальнікаў. У выніку з'явіўся Указ прэзідэнта №703, які бестэрмінова захаваў ільготны рэжым увозу тавараў з Расіі, але адначасова падняў стаўку выплаты адзінага падатку на гэты тавар з каэфіцыента 1,5 да двух.

Ёсць і адваротныя прыклады. Напрыканцы 2007 года ІП змагаліся за права наймаць больш трох працоўных і не з ліку бліжэйшых родзічаў (супраць Указу №760). Некалькі разоў яны выходзілі на Кастрычніцкую плошчу Мінска, і ў выніку пратэстаў з'явілася крымінальная «справа 14-ці» — 14 чалавек, збольшага маладзёны, былі асуджаныя за арганізацыю масавых беспарадкаў і непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі.

Ці дамогуцца зараз свайго прадпрымальнікі? Эксперт у галіне пратэставай дзейнасці і адначасова сустаршыня грамадскага аб'яднання па абароне правоў прадпрымальнікаў «Прыватная ўласнасць» Цімох Дранчук мяркуе, што няблага было б прадпрымальнікам сумясціць грамадскі ціск (марш) і эканамічны (забастоўку). «Да таго часу, пакуль прадпрымальнікі праводзяць аднадзённыя страйкі па чацвяргах, альбо разочак пройдуць на Бангалор, ніякага выніку не будзе. І справа не ў прадпрымальніках, а ў нашай ўладзе. Наша ўлада размаўляе з прадпрымальнікамі з пазіцыі сілы, і толькі сілу яна разумее. Вось калі б забастоўка доўжылася тыдзень, і са спыненнем плацяжоў у бюджэт і іншых выплат, тады б урад што-небудзь бы і зрабіў. Пытанне фінансаў для ўлады зараз вельмі балючае», — лічыць Дранчук.

Але прадпрымальнікі — людзі, якія ўмеюць лічыць і пралічваць свае хады. І націснуўшы на ўрад сваімі патрабаваннямі, яны ўсё ж даюць яму магчымасць выйсці з сітуацыі, нават захаваўшы твар. Арганізатары «Маршу прадпрымальнікаў» гатовыя адмовіцца ад яго правядзення, калі ўлады скарэктуюць пастанову аб спрашчэнні парадку сертыфікацыі тавараў. 1 ліпеня петыцыя з патрабаваннем перагляду тэхрэгламенту была пададзеная старшыні Савета па развіццю прадпрымальніцтва Пятру Пракаповічу і ў Міністэрства гандлю. То бок, прадпрымальнікі цісунуць па ўсіх франтах. Ці дацісунуць?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. РЫХТУЕЦЦА СКАРГА Ў ААН ПА СПРАВЕ АСУДЖАНАГА ДА СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Праваабаронца Леанід Судаленка сустрэўся з маці асуджанага да вышэйшай меры пакарання гамяльчаніна Аляксандра Грунова. Абмяркоўвалася пытанне вычарпання ўсіх эфектыўных сродкаў прававой абароны ўнутры краіны для падачы індывідуальнай скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН. Сустрэча адбылася ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання».

«Мы не даем ацэнак крымінальнаму злачынству, якім бы яно па сваёй жорсткасці ні было. Мы выступаем супраць смяротнага пакарання і далучэнне нашай краіны да агульнаеўрапейскіх каштоўнасцяў. У ходзе сустрэчы з маці смяротніка — Вольгай Груновай дасягнутая дамоўленасць аб падачы скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН», — заявіў Судаленка.

На дадзены момант Беларусь засталася адзінай краінай у Еўропе, дзе выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды. Пасля адмены смяротнага пакарання Узбекістанам з 2008 года наша краіна засталася апошняй з дзяржаваў на постсавецкай прасторы, якая прымяняе дадзены від пакарання.

### ГРОДНА. ЯК АБАРАНІЦЬ СВАЕ ПРЫВАТНЫЯ ДАМЫ

Гродзенская гарадская арганізацыя Партыі БНФ правяла інфармаванне людзей, якія пражываюць па вуліцы Будзёнага, дзе зараз адбываецца карэнная рэканструкцыя і пашырэнне дарогі. Сярод жыхароў гэтага мікрараёну была распаўсюджана памятка «Абарані свой дом», у якой пададзены грамадскія і прававыя аспекты, датычныя зносу прыватнай жылой забудовы. У памятцы пералічаны асноўныя палажэнні заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якія датычаць зносу жылых дамоў, а таксама прыведзены сітуацыі, якія паўстаюць у рэальнасці. Матэрыял закліканы стаць дапаможнікам жыхарам пры абароне свайго прыватнага жылла.

Нагадаем, што пры кардынальнай рэканструкцыі вуліцы Будзёнага ў Гродна ўжо ўзнікла некалькі лакальных канфліктаў паміж будаўнікамі і мясцовымі жыхарамі.

### БАРАНАВІЧЫ. СУПРАЦОЎНІКІ МІЛІЦЫІ СПРАБАВАЛІ ЗАТРЫМАЦЬ МІКАЛАЯ ЧАРНАВУСА

Большая частка прадпрымальнікаў баранавіцкіх рынкаў 2 ліпеня не выйшла на працу. Як паведаміў прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус, былі зачыненыя і не працавалі каля 500 раletаў на Цэнтральным «Баранавіцкім каапрынку» і такая ж колькасць на «Палескім кірмашы».

Але некаторыя прадпрымальнікі ўсё ж выйшлі на працу. Калі Мікалай Чарнавус зайшоў на Цэнтральны рынак і стаў размаўляць з тымі, хто працуе, да яго адразу падбеглі некалькі міліцыянтаў. Імі камандаваў вядомы сваім удзелам у разгоне апазіцыйных акцыяў маёр міліцыі Павел Кульгавік. Міліцыянеры ўзялі спадара Чарнавуса пад рукі і прапанавалі «прайсці з імі». Але, як паспавеў Мікалай Чарнавус, адразу ж сабралася некалькі дзясяткаў прадпрымальнікаў, якія адбілі яго ў супрацоўнікаў міліцыі.

Пасля гэтага Мікалай Чарнавус сышоў з рынку.

### БАРЫСАЎ. СУПРАЦЬСТАЯННЕ ПАМІЖ УЛАДАМІ І ЖЫХАРАМІ

З лютага цягнецца супрацьстаянне паміж Барысаўскім райвыканкамам і жыхарамі былога ваеннага гарадка, цяпер гарадскога мікрараёна Печы. Тут без грамадскага абмеркавання высеклі дрэвы пад будаўніцтва крамы і піцэрыі.

Толькі ў чэрвені, калі пляцоўка пад забудову ўжо была гатовая, выканкам абвясціў грамадскае абмеркаванне плана будаўніцтва піцэрыі і крамы. Жыхары звярнуліся ў Мінскі аблвыканкам з просьбай захаваць асяроддзе пражывання ў прымальным для нармальнага жыцця выглядзе.

Пры гэтым на праведзеным у траўні гэтага года сходзе жыхароў Печаў прадстаўнікі мясцовых уладаў адназначна заявілі аб тым, што будаўніцтва — справа вырашаная. Дэпутат ПП НС ад Барысаўскага раёна Віктар Гумінскі, да якога па дапамогу звярталіся яго выбаршчыкі з Печаў, заняў пазіцыю выканкама і выказаўся ў тым духу, што жыхары не разумеюць выгады будаўніцтва.

Сітуацыю пракаментаваў праваабаронца Алег Мацкевіч: «Мяркуючы па тым, у якой танальнасці выказваюцца прадстаўнікі ўлады, спадзяваная на тое, што меркаванне пераважнай большасці жыхароў Печаў будзе ўлічана пры будаўніцтве аб'ектаў (піцэрыя і крама), мала. Зрэшты, гэта і не дзіўна. Улада паважае свой народ настолькі, наколькі народ гэтага патрабуе ў адносінах да сябе. Я кажу пра тое, што свае правы неабходна адстойваць. Вынік супрацьстаяння наўпрост залежыць ад актыўнасці жыхароў мястэчка».

Пакуль градус актыўнасці ў жыхароў не змяншаецца. Яны прынялі ўдзел у гарадскім абмеркаванні забудовы, паслалі ў выканкам свае прапановы. Цяпер чакаюць адказу з Мінаблвыканкама і рэакцыі на свае прапановы мясцовых уладаў.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле сайта spring96.org**

ЭКАЛОГІЯ

# ПАЛІГОН ДЛЯ СМЕЦЦЯ — КАРАВАЙ ДЛЯ НАШЧАДКАЎ

**У межах кампаніі «Рада народных дэпутатаў» віцебскія актывісты аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» распачалі шчыльнае вывучэнне праблемы будаўніцтва смеццеперапрацоўчага комплексу пад Віцебскам.**

«Віцебск можа пахваліцца самым вялізным тортам вышынёй у 30 метраў. Гатавалі гэты каравай больш за 40 гадоў усе жыхары абласнога цэнтра. Знаходзіцца ён ля пасёлка Білева і аднайменных мікраёнаў горада. За сёлетні год плануюць павялічыць яго памеры яшчэ на 800 тысяч тон — менавіта столькі смецця вывозяць штогод на палігон», — распавяла сябра БХД Крысціна Авакумава.

Робіцца тут усё, як прапісана ў рэцэпце: пласт смецця, пласт пяску, потым утрамбоўка, і зноў усё паўтараецца, але такія прысмакі могуць кепска паўплываць на здароўе жыхароў. Там няспынна ўсё закісае, збіраюцца газы, а машыны ўсё ідуць і ідуць з гораду. Ужо некалькі гадоў таму планавалі закрыць палігон, бо ён вельмі перагружаны рознымі інгрэдыентамі. І з кожным днём іх становіцца ўсё больш. Хаця часткова вядзецца переработка смецця: выбіраюць паперу, шкло, пластык, але ніхто не можа даць гарантыі, што такія пірагі аднойчы адмоўна не паўплываюць на грунтавыя воды і паветра.

Каб знізіць небяспеку, на смеццевым палігоне запусцілі шведскую ўстаноўку па перапрацоўцы біялагічнага газу ў электрычнасць. Працаўнікі палігону задаволеныя, таму што ўзровень бяспекі павышаецца амаль напалову — значная частка біялагічнага газу спальваецца.

Паводле Авакумавай, на сённяшні дзень працаўнікоў хвалюе запланаваны пераезд сметніка на новы палігон у раёне Копці-Касачы. Але ёсць у пераездзе і станоўчае — яны спадзяюцца, што там будзе лепшая інфраструктура.

Праблема захоўвання смецця вельмі востра стаіць ва ўсёй краіне. Было запланавана будаўніцтва шасці смеццеперапрацоўчых камбінатаў, але на сённяшні дзень ёсць толькі адзін — у Наваполацку.

Ля Віцебска такі павінен быў з'явіцца ў 2011 годзе. Зараз нават і гаворкі пра гэта няма, затое распрацоўваецца новы палігон для сметніка. Такое «вырашэнне» пытання не здымае старых праблем: новы сметнік будзе шкодзіць экалогіі не менш, толькі ўжо ў іншым месцы. Да таго ж, дзеля яго распрацоўкі прыйдзецца знішчыць шмат лесу.

«Няўжо наша краіна занадта багатая? Дык багатыя людзі і краіны лічаць свае грошы, і не закопваюць іх у сметнік. А можа, тыя, ад каго залежыць пабудова перапрацоўчага камбіната, дарма праядаюць нашы грошы і працірають свае штаны на зручных крэслах? Ці яны лічаць, што вырабіць новы смеццевы пірог лягчэй? А каму давядзецца яго спажываць, пра гэта яны не думаюць», — лічыць Крысціна Авакумава.

**Паводле інфармацыі прэсавай службы БХД**

ПАМЯЦЬ



# КРЫЖ-ПОМНІК ЗНОЎ УСТАЛЯВАЛІ

**Марат ГАРАВЫ**

**У Маладзечне ўсталяваны апаганены вандаламі ад улады крыж-помнік пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі.**

Пра гэта НЧ распавёў дэмакратычны актывіст, арганізатар узвядзення помніка Лявон Цімохін.

Ён нагадаў, што першы ў краіне помнік беларусам, якія ахвяравалі сабою дзеля волі і незалежнасці Бацькаўшчыны, быў урачыста адкрыты 27 сакавіка 1993 года на Цэнтральнай плошчы горада ў гонар 75-годдзя БНР.

Вялікі светла-шэры камень з чырвонымі пражылкамі, прывезены з ГУЛАГаўскай каменяломні, упрыгожылі металічны вараненым шасцікандовы ефрасіннеўскі крыж, зроблены мясцовым кавалём і асвечаны, і паліраваная гранітная дошка з тэкстам: «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі».

У адкрыцці мемарыялу, асвечанага святарамі ўсіх хрысціянскіх дэнамінацый, удзельнічаў мэр гораду, дэпутат ВС Генадзь Карпенка і тысячы верніkаў-хрысціянаў, якія адслужылі малебен.

На Цэнтральнай плошчы помнік прастаяў 18 гадоў і стаў не толькі гарадской, але і нацыянальнай славутасцю. Але ноччу 12 красавіка 2011 года пастамент помніка ўзарвалі, камень перанеслі прыкладна на 100 метраў на ўзбочыну дарогі каля гатэлю «Маладзечна» і схавалі пад тканіну. А на тым месцы ўсталявалі кампазіцыю, якая сімвалізуе Купалле.

Перад Дажынкамі помнік перанеслі яшчэ на 250 метраў і ўсталявалі каля перакрыжавання вуліц імя Пятра Машэрава і Вялікі Гасцінец недалёка ад агароджы гарадскога парку.

Для таго, каб забяспечыць праход да ствараемых у парку пляцовак пляжнага валейболу, каля помніка была пракладзена забрукаваная сцежка.

Урэшце 28 чэрвеня крыж-помнік быў зруйнаваны. Аднак пасля інфармацыі пра гэта ў незалежнай прэсе парэшткі крыжа-помніка ў спешным парадку склеілі, неахайна выраўнялі пагнуты вараненыя крыж і зашмаравалі яго чорнай фарбай. Затым знявечаны помнік са шматлікімі расколінамі і страчанымі кавалкамі ўсталявалі ў гарадскім парку каля мемарыялу воінам-інтэрнацыяналістам.

«Адной ноччу ў 1948 годзе ў горадзе былі адначасова ўзарваны дзве святыні — вялізарны бетонны чатырохканцовы каталіцкі крыж каля дарогі на Вільню і старадаўняя хрысціянская капліца непадалёку ад плошчы Старога места каля дарогі на Мінск. Наш крыж-помнік быў своеасаблівым спадкаемцам гэтых хрысціянскіх святынь, — патлумачыў Лявон Цімохін. — Вось чаму хрысціяне Маладзечна слёзна моляцца, каб Бог даў такую ўладу, якая пакаецца і не толькі верне крыж-помнік на яго першапачатковае месца на Цэнтральнай плошчы горада, але і ўзновіць зруйнаваныя тут у 1948 годзе хрысціянскія святыні».

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У БЕЛАРУСІ СЭКСУ НЯМА!

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Чаму ў стабільнай і сінявокай, дзе забароненыя аднаполыя шлюбы, так крытычна падае нараджальнасць? У нас няма сэксу. А калі ён раптам недзе вылазіць, дык яго адразу абвяшчаюць правакацыяй ды бягуць з прэтэнзіямі ў грамадскі савет па маральнасці пад кіраўніцтвам Мікалая Чаргінца.**

Вось і скандал з «Міс Мінск» таму пацвярджэнне. Як толькі «міскай» стала Яна Канцавенка, у інтэрнэце адразу ж расшукалі яе вельмі, нават занадта, шчырыя фотаздымкі. Высветлілася таксама, другая віцэ-міс Наталля Башура працуе go-go-танцоркай, а ўладальніца тытула «Міс сяброўства» Кацярына Войтус — стрыптызёрка.

Здавалася б, што тут такога? Калі гэта не забаронена палажэннем пра конкурс — удзельнічай і перамагай! Ну і што, што стрыптызёрка стала «Міс сяброўства»? А хто ім павінен стаць? Слесар-вадаправодчык? Наадварот, няхай «мінчане і госці сталіцы» ведаюць, што нашае сяброўства — нічым не прыкрытае і вельмі шчырае. Гэта ж вялізны плюс, а не мінус.

Як па мне, дык прыгажосць павінна быць даступнай для ўсіх. Якая карысць з таго, што «Міс Мінск» разочак выйдзе на подыум, і больш мы яе не пабачым. Ну, скажыце, напрыклад, дзе мы бачылі папярэдніх «місак»? Дзе зараз «Міс Мінск–2009» Марыя Кубракова? Што робіць «Міс Мінск–2011» Уляна Валахоўская? Ніхто не бачыў, не чуў, не ведае, нібыта іх адразу пасля ўручэння кароны прыгажосці, не адыходзячы ад касцюмернай, апранулі ў паранджу і схавалі далей з вачэй. А тут захочаш паглядзець на «Міс сяброўства» — калі ласка, ёсць сайт, ёсць клуб, прыходзь і глядзі. Спадабалася другая віцэ-міс? Пацікаўцеся яе канцэртным графікам! Спадабаліся іншыя ўдзельніцы конкурсу? Завітайце на выступленне правакацыйнага квартэта «E.b.a.s.h», — там іх аж дзве.

І не трэба казаць: «Фу такімі быць»! Прыгажосць выратуе свет, а каму не падабаюцца дзяўчаты — не глядзіце.

Не, пабornікі маралі лютуюць. Тыя, хто раней кпіў з камісіі па маральнасці, пабеглі плакацца Чаргінцу ў камізэльку. Мікалай жа Чаргінец з усёй дзяржаўнай мудрасцю вырашыў, што спяшацца не трэба. На ягоную думку, гэта нейкія выпаўзні «падставілі» арганізатараў шоў — Мінгарвыканкам, тэлеканал СТВ і Нацыянальную школу прыгажосці. Як заявіў Чаргінец, савет па маральнасці на бліжэйшым пасяджэнні разгледзіць пытанне аб тым, наколькі адпавядаюць размешчаныя ў інтэрнэце здымкі ўдзельніц конкурсу прыгажосці «Міс Мінск–2013» агульнапрынятым нормам маралі.

Каментуючы скандальныя фота ўдзельніц конкурсу, Чаргінец сказаў, што «на такія факты неабходна рэагаваць». Паводле яго слоў, рада збярэцца ў канцы месяца, тады праблему і абмяркуюць. «Пад сцягам дэмакратызацыі, адкрытасці нам падсоўваюць усё што заўгодна», — сказаў Чаргінец. Калі так пойдзе далей, працягнуў ён, то ў хуткім часе «можна чакаць, што будуць патрабаваць дазволіць аднаполыя шлюбы», а таксама праводзіць шэсці «блакітных і лесбіянак».

Між тым, ашалелых ад такой папулярнасці «місак» наведаў кіраўнік Беларусі з сынам Колем. Невядома, што Аляксандр Рыгоравіч казаў самім дзяўчаткам. Але вядома, што пасля сустрэчы з імі ён запатрабаваў ад дзяржавы не лезці да чалавека ў ложак.

«Мы ў Беларусі не імкнёмся кантраляваць прыватнае жыццё грамадзян. Гэта недапушчальна! Больш за тое, недатыкальнасць прыватнага жыцця, ахова асабістай прасторы чалавека былі, ёсць і будуць фундаментальнымі прынцыпамі нашай палітыкі. Мы не можам гэтага дапусціць і з боку іншых дзяржаў. Нават імперый. У гэтым прад'яўляецца наша прыхільнасць сапраўдным дэмакратычным прынцыпам і, галоўнае, наша павага да асобы чалавека», — заявіў Лукашэнка, выступаючы з прамовай напярэдадні афіцыйнага Дня Незалежнасці Беларусі.

У той жа час, каб чыноўнікі не лезлі пад спадніцы ўсялякім «міскам», Аляксандр Рыгоравіч заклікаў іх быць больш сціплымі. «Мы пастаянна робім і будзем рабіць жорсткі, калясальны націск на дзяржаўны апарат, на чыноўнікаў, прымушаючы іх служыць людзям, не браць чужога і весці сціплы лад жыцця», — сказаў ён.

Перад Беларуссю ёсць больш важныя задачы, чым разбірацца, наколькі агаліла грудзі ў фотасесіі тая ці іншая дзяўчына. Тое, што ў нас моцная дзяржава, яшчэ не азначае, што працаваць не трэба. «Усё шырэй распаўсюджваюцца ў нас лянота і ўтрыманства, усё часцей можна пачуць словы: а навошта мне самому штосьці рабіць? Вось ёсць дзяржава, няхай яна пра мяне і паклапоціцца… Мы толькі тады можам абсалютна спакойнымі быць за лёс незалежнай Беларусі, калі кожны яе грамадзянін будзе ставіць пытанне так: што я зрабіў для краіны, а не што краіна павінна зрабіць для мяне? Пакуль жа мы вельмі часта чуем другую частку пытання і вельмі рэдка — першую», — сказаў Лукашэнка.

І гэта праўда. У аналітычным матэрыяле Міністэрства эканомікі па выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў студзені-маі 2013 года гаворыцца, што мы маем зараз вялікія праблемы. У студзені-маі 2013 года забяспечаны эканамічны рост на ўзроўні 1,1% пры прагнозным значэнні 8,5%. У параўнанні са студзенем-красавіком тэмп росту ВУП запаволіўся на 1,4%.

Па выніках пяці месяцаў 2013 года з васьмі найважнейшых параметраў прагнозу выкананы толькі тры. Рост прадукцыйнасці працы склаў 103,5%, апярэдзіўшы дынаміку ВУП. У той жа час адставанне ад прагнозу (109,3%) па-ранейшаму істотнае. Складанасці з рэалізацыяй айчыннай прадукцыі ва ўмовах звужэння асноўных экспартных рынкаў у студзені-красавіку бягучага года прывялі да зніжэння паставак беларускіх прадпрыемстваў на экспарт, які ўпаў на 20%.

Так што хопіць раздуваць скандалы там, дзе іх не трэба. Як трапна казалі браты Стругацкія, народу не патрэбныя нездаровыя сенсацыі, народу патрэбныя здаровыя сенсацыі. Вось калі мы, замест таго, каб спрачацца наконт «місак», раптам выканаем усе прагнозныя паказчыкі — вось гэта будзе сенсацыя. А «міскі», дарэчы, хай зробяць свой унёсак у развіццё турыстычнай галіны — падвышэння валютнай выручкі і, адпаведна, ВУП.

Чамусьці я ўпэўнены, што гэта яны зробяць лепш за шмат якіх чыноўнікаў.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### МАЙРА МОРА

«Я гатова прасіць, маліць — каб толькі палітвязні выйшлі на волю», — заявіла ў інтэрв'ю «Еўрарадыё» кіраўнік Прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі Майра Мора.

«Вызваленне, так бы мовіць, па натуральных прычынах не прымаецца — гэта не вызваленне. Гэта — выйсце пасля адбыцця пакарання на свабоду. Тут апладысментаў не будзе — будзьце ўпэўненыя! Але ж, відаць, палітычнай волі беларускім уладам не хапае. Я не разумею: навошта рабіць так, што лёс краіны залежыць ад лёсу 9 чалавек (сёння ў Беларусі адбываюць пакаранне 9 вязняў, прызнаных міжнароднай супольнасцю палітзняволенымі — «Еўрарадыё»)?! Трэба ж думаць у гістарычных катэгорыях», — сказала Майра Мора.

Кіраўнік прадстаўніцтва ЕС не лічыць, што Еўропа павінна адмовіцца ад патрабавання поўнай рэабілітацыі палітвязняў.

«Асобныя вашы юрысты сцвярджаюць, што няма такога юрыдычнага тэрміну ў Беларусі, як «рэабілітацыя». Але наша пазіцыя такая: калі не падабаецца слова «рэабілітацыя», то называйце гэта па-іншаму — аднаўленне ўсіх грамадзянскіх і палітычных правоў. Шэкспіра хочацца цытаваць: «Ружа пад іншым імем будзе пахнуць гэтак жа прыгожа». Так трэба ставіцца да патрабаванняў — не забываючыся на сутнасць. А пра сутнасць ніхто не забываецца», — падкрэсліла Майра Мора.



### АНАТОЛЬ ШУМЧАНКА

2 ліпеня лідар прадпрымальнікаў выйшаў на волю. Анатоль Шумчанка быў затрыманы 27 чэрвеня, калі прадпрымальнікі па ўсёй краіне зладзілі забастоўку пратэсту супраць патрабаванняў тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза. Згодна з імі, прадпрымальнікі абавязаныя мець сертыфікат якасці на ўсю вопратку і абутак, якімі гандлююць. Пасля затрымання на Шумчанку склалі пратакол за арганізацыю несанкцыянаванай акцыі і асудзілі на пяць сутак.

«Мы зараз актыўна вядзем перапіску з Масквой. З Еўразійскай эканамічнай камісіяй. Пакуль мяне не было, там усё актыўна рухалася. Хочам праз Маскву вырашыць сваё пытанне. Працуем у двух накірунках — беларускім і расійскім», — сказаў Шумчанка ў каментары «Еўрарадыё».

Ён таксама нагадаў пра запланаваны на 15 ліпеня марш прадпрымальнікаў. Арганізатары ўжо падалі заяўку, аднак Мінгарвыканкам пакуль не даў афіцыйнага адказу. Прадпрымальнікі хочуць прайсці па маршруце ад Акадэміі навук да плошчы Бангалор.

### ВАСІЛЬ ПАРФЯНКОЎ

Супраць былога палітзняволенага Васіля Парфянкова зноў заведзена крымінальная справа за парушэнне ўмоваў прафілактычнага нагляду, паведамляе Радыё «Рацыя».

За ўдзел у Плошчы 2010 года быў прысуджаны да 4 гадоў зняволення, аднак памілаваны і выпушчаны на волю. Пасля гэтага неўзабаве пастаўлены на прафілактычны ўлік.

За яго парушэнне ў 2012 годзе асуджаны на 6 месяцаў арышту. І вось новая крымінальная справа па тым жа абвінавачванні.

Па словах Васіля Парфянкова, следчы ў Першамайскім РУУС Мінска спрабаваў яго дапытаць. Аднак Парфянкоў адмовіўся даваць паказанні без адваката.

«Ён мне сказаў: «Можаш быць вольны, я цябе яшчэ буду выклікаць, буду апытваць тваіх бацькоў». У мяне толькі два парушэнні, на што ён мне адказаў, што два парушэнні — гэта ўжо сістэма, таму інспектар вырашыў перадаць справу ў следчы аддзел Першамайскага РАУС. Можа, на наступным тыдні будуць выклікаць. Мой участковы інспектар неаднаразова мне казаў, што амаль кожную планёрку ў РАУСе начальнік пытаецца: «Як там твой палітычны, што ён там робіць?».

Па словах Парфянкова, парушэнні ўмоваў нагляду, за якія ён быў пакараны штрафам, былі дробныя. Пасля 20 гадзінаў ён павінен быць дома, але спазніўся.

Аднак, як кажа Парфянкоў, нават па законе двух парушэнняў недастаткова для ўзбуджэння крымінальнай справы. Як мінімум, трэба тры.



АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# СПРАВЯДЛІВАСЦЬ І ТРУБА

Сяргей НІКАЛЮК




**Галоўная ўмова паспяховай канкурэнцыі на знешнім рынку — наяўнасць паўнавартаснага ўнутранага рынка, г. зн. рынка, які ўключае эканамічны, палітычны і сацыяльны складнікі.**

20 чэрвеня адзіны палітык (АП) выступіў на пленарным пасяджэнні XV Сусветнага кангрэса рускай прэсы. Натуральна, не абышлося без згадвання пра рускую цывілізацыю, якая дала свету асаблівыя духоўныя каштоўнасці. *«Именно эти ценности,* — і тут АП абсалютна мае рацыю, *— положены нами в основу нашей государственности и того, что принято называть белорусской моделью развития».*

Спіс каштоўнасцяў адкрываюць *«солидарность и справедливость».* Гэта дзякуючы ім *«рационалистические заповеди индивидуализма, воплощенные в философии свободного рынка, согласно которой выживает сильнейший, так у нас и не прижились».*

І з гэтым не паспрачаешся. Узгадаем савецкую сістэму адукацыі. Яна лічылася з аб'ектыўнай рэальнасцю толькі ў сферы тэхнічных навук, бо для стварэння ядзернага шчыта былі патрэбныя рацыянальна думаючыя інжынеры. Што да навук грамадскіх, то тут панавалі легенды і міфы, якім рацыянальнасць, як вядома, супрацьпаказаная. Бо ў якое вартае смеху відовішча ператварылася б «адзіна правільнае вучэнне», калі б савецкія людзі масава навучыліся думаць рацыянальна.

Падмацую сказанае словамі Андрэя Пеліпенкі, аднаго з самых глыбокіх расійскіх культуролагаў: «Свядомасць чалавека Рускай матрыцы архаічная і інфантыльная. Свет апісваецца наборам племянных міфалагем, якія амаль цалкам блакуюць рацыянальнае ўспрыманне рэальнасці». Руская матрыца і ляжыць у аснове *«того, что принято называть белорусской моделью развития».*

## Справядлівасць і труба

Ідэі справядлівасці ў расійскай сацыякультурнай традыцыі выступаюць у якасці своеасаблівага каркаса нацыянальнай самасвядомасці. Ідэя паўстала не ўчора. У сялянскай абшчыне перадзел зямлі ажыццяўляўся двума спосабамі: па колькасці едакоў і па колькасці працаўнікоў у сям'і. Кожны раз, калі ішлі перадзелы, пачыналіся спрэчкі. Але той, хто валодаў дадатковым рэсурсам, напрыклад, мог паставіць грамадзе вядро гарэлкі, той і меў больш шанцаў дамагчыся выгоднай асабіста для яго справядлівасці.

Абшчына засталася ў мінулым, але прынцып вырашэння канфліктаў «па справядлівасці» актуальны і сёння. Як тут ні прыгадаць гарадскую паліклініку. На чым баку справядлівасць, на баку ўладальнікаў талонаў ці на баку ахвотнікаў патрапіць да лекара па жывой чарзе? І ў гэтым выпадку ўсё вырашае аб'ём асабістых рэсурсаў. Па-за канкурэнцыяй тут нахабства і беспардоннасць.

«Адрозненне Расіі ад Захаду, — адзначае амерыканскі палітолаг Мікалай Злобін, — палягае ў тым, што людзі ў Расіі ўспрымаюць несправядлівасць, а на Захадзе пратэстуюць супраць парушэння закона. Гэта дзве розныя рэчы, закон не абавязкова справядлівы».

Закон па сваёй прыродзе адназначны. У таго ж, хто вырашае пытанне «па справядлівасці» заўсёды ёсць шанец урваць, што хочацца. Тыя, хто мае ўладныя рэсурсы, тут па-за канкурэнцыяй. У гэтым сэнсе егіпецкі фараон Анціох III не быў арыгінальны. Цытую: «Заўсёды справядліва тое, што пастанавіў фараон».

Праілюструю думку Анціоха III прыкладам, запазычаным з чэрвеньскай стужкі навін. Расійскія акцыянеры ААТ «Сукно», якое ўваходзіць у дзяржаўны канцэрн «Беллегпрам», абскардзілі ў Вышэйшым гаспадарчым судзе Беларусі змяншэнне іх долі ў таварыстве. Змяншэнне адбылося ў выніку дадатковай эмісіі акцый на карысць дзяржавы. Паводле заявы пазоўніка, сход акцыянераў, які прыняў адпаведнае рашэнне, не праводзіўся, а яго пратакол быў сфальсіфікаваны. Суд запатрабаваў дакументы сходу, але замест дакументаў атрымаў з адміністрацыі ААТ акт пра іх знішчэнне ў сувязі з аварыяй трубы.

Здагадайцеся, на чыю карысць прыняў рашэнне Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі — расійскіх акцыянераў ці беларускай дзяржавы? Нездагадлівым падказваю: справядлівасць перамагла!

Зразумела, беларускі варыянт справядлівасці расійскі бок не задаволіў. Даю слова дарадцу пасольства Расіі ў Беларусі Вользе Смірновай: «У дзеяннях адказчыка я са здзіўленнем назіраю паўтор бандыцкіх 1990-х гадоў у Расіі, як быццам мы вярнуліся ў мінулае на 20 гадоў».

Вось тут памылка. Беларуская мадэль развіцця накіравана не ў мінулае, а ў будучыню. Але ў яе аснове, нагадваю, ляжаць каштоўнасці расійскай цывілізацыі, і дарадцы расійскага пасольства не варта пра гэта забываць, дый класікаў на ноч нядрэнна б перыядычна чытаць. «Рускі, кім бы ён ні быў, абыходзіць ці парушае закон усюды, дзе гэта можна зрабіць беспакарана; дакладна гэтак жа робіць і ўрад». Гэта Герцэн Аляксандр Іванавіч — рэвалюцыянер, публіцыст, пісьменнік, філосаф.

## Разварот на 180 градусаў

Але вернемся да выступу АП на пленарным пасяджэнні XV Сусветнага кангрэса рускай прэсы: *«Полное изгнание моральных, нравственных принципов из экономики оборачивается против самой экономической системы, постепенно превращая ее в паразитическую и неэффективную. В этом состоит значительное отличие нашего белорусского пути. Однако именно в этом — его сходство и родство с подлинными духовными ценностями русского мира и русской цивилизации (в широком смысле этого слова), к которым все мы с вами принадлежим».*

Прыгожа? Прыгожа. Але для ўзмацнення ўражання рэкамендую паднясціся ў кабіну будаўнічага крана, з якой мы, простыя абывацелі, магчыма, разгледзім часцінку таго, што ўжо сёння ва ўсіх дэталях назірае АП з вяршыні ўладнай «вертыкалі». А назірае ён *«в строительстве полный обвал, начиная от неудовлетворенности граждан сроками, качеством и стоимостью строительства и заканчивая той коррупцией, в которой погрязла вся отрасль».*

Цэлая галіна загразла ў карупцыі. *«Минский горисполком полностью из коррупционеров сегодня сформирован».* Цікава, наколькі гэтыя і падобныя прыклады спароджаны эканомікай, заснаванай на маральных прынцыпах? Не выключана, што і наша карупцыя, у адрозненне ад карупцыі не нашай, не паразітуе на эканоміцы, а выконвае ролю стымулу, які падвышае яе эфектыўнасць.

На працягу амаль двух дзесяцігоддзяў АП запэўніваў нас у тым, што *«Беларусь не пошла по пути, навязанному всем бывшим советским республикам, отвергла обвальную приватизацию государственной собственности и пассивную роль государства в социально-экономических процессах. Мы не отдали ни природные богатства, ни созданный народом производственный потенциал олигархам или зарубежному капиталу. Сами сумели возродить предприятия и использовать на благо всего народа, а не кучки ловкачей и проходимцев».*

Усё пералічанае, калі мне памяць не здраджвае, складае ядро расійскай эканамічнай мадэлі. Амаль два дзясяткі гадоў АП выкарыстоўваў яе ў якасці фону, на якім так рэльефна глядзеліся яго ўласныя дасягненні. Што прымусіла яго развярнуцца на 180 градусаў? Наўжо «падгніла штосьці ў Дацкім каралеўстве»?

## Канстытуцыя тут ні пры чым

Але не хлебам адзіным жывы чалавек, таму АП у сваім выступе на кангрэсе выказаўся з нагоды свабоды прэсы: *«Как вы, вероятно, слышали, Беларусь часто упрекают в отсутствии свободы слова. Вообще, сегодня в этом смешно кого-то упрекать с появлением Интернета и других носителей этого слова. Обычно об этом говорят лицемерные люди. Сами они прекрасно понимают, что нет в мире абсолютной свободы. Тот, кто не зависим от правительства, зависим от собственника издания, от рекламодателей, от капризов публики, в конце концов, от ошибок, эмоций и собственных заблуждений журналистов».*

Своеасаблівая логіка, пагадзіцеся. Свабоду слова беларусам гарантуе Канстытуцыя (артыкулы 34–35). У сваю чаргу, кіраўнік дзяржавы з'яўляецца «гарантам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, правоў і свабодаў чалавека і грамадзяніна» (артыкул 79). Тэлефаную ў Беларускую асацыяцыю журналістаў (БАЖ). Атрымліваю даведку: за апошнія тры гады адмоўлена ў рэгістрацыі 105 друкаваным выданням.

Такая вось у нас свабода слова. Але дзякуй інтэрнэту і іншым носьбітам інфармацыі (галоўным чынам электронным). Гэта праз іх усёпранікальную здольнасць пра адсутнасць свабоды слова ў Беларусі сёння кажуць выключна *«лицемерные люди»*, а Канстытуцыя і яе гарант тут ні пры чым.

Для ўстойлівасці зэдліка неабходныя, прынамсі, тры кропкі апоры. Для падтрымання стабільнасці ў грамадстве, апроч эканамічнага кампанента, неабходны палітычны і сацыяльны, але кожны з іх не з'яўляецца самастойным, бо залежыць ад сваіх калегаў.

Просты прыклад. Канкурэнтаздольнасць беларускай эканомікі АП звязвае з тэхналагічнай мадэрнізацыяй дзяржаўных прадпрыемстваў. А чаму б не? Прыгадаем сталінскую мадэрнізацыю. У тыя гады інтэрнэт яшчэ не быў вынайдзены, і «бацька народаў» быў вымушаны адзін, без дапамогі тэхнічных прыбамбасаў гарантаваць савецкім людзям свабоду слова і свабоду друку (артыкул 125 Канстытуцыі 1936 г.). Такая манаполія не перашкодзіла яму прыняць Расію з сахой, а пакінуў з атамнай бомбай.

Поспех сталінскай мадэрнізацыі забяспечыў гвалт. І гэта не сакрэт. Але ў постіндустрыяльным грамадстве гвалтоўная мадэрнізацыя, якая здзяйсняецца дзяржавай зверху, не мае шанцаў на поспех. Успомнім досвед Японіі, Тайваня і Паўднёвай Карэі. На стадыі індустрыялізацыі ўсе тры азіяцкія тыгры былі аўтарытарнымі дзяржавамі, але толькі на гэтай стадыі. Не пазбегнуць дэмакратызацыі і Кітаю. Мабыць, галоўны крок у дадзеным кірунку ўжо зроблены: генеральны сакратар КПК не можа займаць сваю пасаду больш за два тэрміны.

Беларускай мадэлі свае права на жыццё даводзіцца адстойваць *«в жестком мире глобальной конкуренции».* Таму ніводны выступ АП на эканамічную тэму не абыходзіцца без заклікаў павялічыць канкурэнтаздольнасць беларускіх тавараў. Але ці ёсць у нас шанец канкураваць на знешнім рынку пры адсутнасці паўнавартаснага ўнутранага рынка, які ўключае і яго палітычны складнік?

Я разумею, што *«рационалистические заповеди индивидуализма, воплощенные в философии свободного рынка»*, у нас так і не прыжыліся. Аднак калі хутка сітуацыя кардынальна не зменіцца, то беларусы могуць застацца без Беларусі ці Беларусь без беларусаў.

ЗМАГАННЕ

# МІКОЛА СТАТКЕВІЧ

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Шчыра кажучы, напісаць гэты нарыс трэба было даўно, але ўвесь час перашкаджалі ўспаміны пра нашы з Міколам, мякка кажучы, не вельмі ветлівыя ўзаемаадносіны. Даспеў я падчас прэзентацыі камітэтам «Салідарнасць» кампаніі «Тыдзень палітвязня», дзе першым героем стаўся менавіта Статкевіч. І мне стала зразумела, што асабістае заўсёды павінна саступаць месца аб'ектыўнаму.**



## Шлях да свету

Пачаць хочацца з кароткага ўспаміну, які прыгадаў сам Мікола Статкевіч у верасні 2006 года ў сваім эсэ, што напісаў у вёсцы Блонь Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці, дзе адбываў «хімію».

«Было гэта на адным з паліганаў у казахскім стэпе, куды наша брыгада прыехала з Поўначы для баявых стрэльбаў па паветраных мішэнях. Камандны пункт брыгады, за тэхніку якога я адказваў, месціўся ў бункеры з вельмі складаным уваходам, падобным да лабірынта з перашкодамі. Аднойчы, калі мне трэба было тэрмінова трапіць на паверхню, мясцовы інструктар сказаў, што ёсць яшчэ адзін, вельмі просты выхад — цёмны калідор. Ён зачыніў за мной браніраваныя цяжкія дзверы, і я апынуўся ў поўнай цемры. Хацелася вярнуцца назад, у аператыўную залу каманднага пункта, дзе ў вялікай прасторы зялёным ды сінім свяціліся шматлікія планшэты і экраны. Пайшоў наперад, выставіўшы рукі перад сабой. Амаль адразу наткнуўся на халодную сценку калідора. Узяў у другі бок. Вельмі хутка — зноў сцяна. Пакрысе, усе радзей натыкаючыся на сцены, я выбраў накірунак, які вывеў мяне да таких жа браніраваных дзвярэй, за якімі было неба і заліты сонцам стэп». Сімвалічны ўспамін.

Нарадзіўся будучы вайсковец, навуковец і палітык 12 жніўня 1956 года ў вёсцы Лядна Слуцкага раёна. Яго бацькі былі настаўнікамі, таму разам з навукай жыць, ён адразу пачаў асвойваць другую навуку — думаць. Сам жа род Статкевічаў паходзіць са старажытнай беларускай шляхты і мае герб «Касцеша», якім, акрамя іх, карысталіся больш чым 200 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у тым ліку і продкі польскага маршала Юзафа Пілсудскага.

На жаль, маці Міколы на гэтым свеце ўжо няма, а вось яго бацька Віктар Паўлавіч, нягледзячы на салідны ўзрост (86 гадоў) і шматлікія хваробы (рак, язва страўніка) па наш дзень жыве ў Баранавічах і для многіх з'яўляецца прыкладам мужнасці і высакародства.

Кожны год, 9 мая, яго віншуюць мясцовыя дэмакратычныя актывісты. Падчас вайны, юнаком ён разам са сваім бацькам, дзедам Міколы Статкевіча, дапамагаў партызанам. Нават удзельнічалі, можна сказаць, у дыверсійных акцыях: падпілоўвалі слупы з тэлефоннымі праводамі, чым шкодзілі камунікацыям фашыстаў. Аднойчы нарваліся на нямецкага салдата, які стрэліў у Віктара, але яго паспеў засланіць сабой бацька.

У пачатку красавіка 2011 года некаторыя інтэрнэт-рэсурсы паведамілі пра тое, што Віктар Паўлавіч Статкевіч з Беларусі з'ехаў ва Украіну, дзе жыве старэйшы сын Аляксандр. Сапраўды ездзіў, але ў госці, на вяселле ўнука Андрэя. Там пабачыўся і з другімі сваімі ўнучкамі — Кацяй ды Аняй — дочкамі Міколы, якія разам з сем'ямі прыехалі на вяселле з Германіі. Кацця — доктар навук, разам з мужам працуе ў кампаніі «Аўдзі». Аня — хатняя гаспадыня, выхоўвае маленькага сына Лёню, а яе муж займаецца бізнэсам.

## Вайсковы выбар

Сярод вайскоўцаў супрацьпаветраная абарона лічыцца не самай спрыяльнай для службовай кар'еры. Пра генеральскія лампасы там амаль не мараць, нават дайсці да падпалкоўніка, палкоўніка вельмі складана. Адзінае, што можа прывабіць, — практычная адсутнасць «асабовага складу», то бок салдатаў. Гэта — інтэлектуальныя тэхнічнае войска. У СПА больш думаюць, чым бегаюць.

Магчыма, гэта і стала асноўнай прычынай вайсковага выбару Міколы Статкевіча. А яшчэ — на той час высокі прэстыж вайскоўцаў у грамадстве. Да таго ж, курсанцкія пагоны дазвалялі небагатай настаўніцкай сям'і не хвалявацца за дабрабыт сына.

У 1973 годзе Мікола Статкевіч паступіў у Мінскае вышэйшае інжынернае зенітнае ракетнае вучылішча СПА, якое пасьпяхова скончыў у 1978 годзе. Па размеркаванні яго накіравалі ў Запаляр'е, дакладней, у Мурманскую вобласць.

Праслужыў ён толькі чатыры гады, але за гэты кароткі час паспеў шмат чаго. Напрыклад, быў прызнаны лепшым афіцэрам па сваёй спецыяльнасці ў аб'яднанні супрацьпаветранай абароны, якое абараняла ўсю Поўнач еўрапейскай часткі СССР. Там жа яму прысвоілі вышэйшую баявую класіфікацыю — «Майстар».

У 1982 годзе вярнуўся ў альма-матэр, паступіў там у ад'юнктуру, праз некалькі гадоў абараніў кандыдацкую дысертацыю і стаў выкладаць.

## Палітычны арыенцір

Напэўна, шмат хто б на месцы Статкевіча спыніў любую актыўнасць. Маўляў, што яшчэ трэба ў жыцці? Прэстыжнае месца службы, высокая зарплата, перспектыва кар'еры... Тым больш, што ў яго асабіста ўсё складвалася як мага лепш. За час службы ў МВІЗРВ ён напісаў болей за 60 навуковых прац у галіне кіравання, эргамінікі і сацыяльнай псіхалогіі. Зрабіў некалькі вынаходніцтваў, быў накіраваны ў дактарантуру.

Напэўна, на гэты дзень ён мог доктарам навук, прафесарам. І генералам. Як некаторыя з тых, у каго на той час на пагонах было нават менш зорачак. Напрыклад, былы маёр Шэйман. Дарэчы, дзякуючы менавіта яму, я трапіў у гісторыю нашай краіны. Было гэта 15 верасня 1992 года, калі чальцы нядаўна створанага па ініцыятыве Міколы Статкевіча Беларускага згуртавання вайскоўцаў і афіцэры запасу прымалі прысягу на вернасць Беларусі. Мой подпіс трапіў на адзін аркуш з подпісам Віктара Шэймана.

Дадам толькі, што гэта вядомае прозвішча не было ў тых спісах адзіным выключэннем. Калі ўзяць атачэнне дзеючага прэзідэнта, то ў гэтым асяродку можна ўбачыць імёны тых, хто тады быў «дэмакратам». Напрыклад, сучаснага міністра інфармацыі Алега Праляскоўскага...

## Якія розныя шляхі

Тая шматтысячная грамадская акцыя прымусіла ўрад прывесці да прысягі незалежнай суверэннай Беларусі ўсіх афіцэраў сілавых структур. І ніхто тады нават уявіць не мог, што праз колькі год яны будуць прысягаць зноў: быць вернымі не толькі сваёй краіне, але і яе прэзідэнту...

Аднак звернемся да біяграфіі Міколы Статкевіча, якая размешчана на яго сайце: «Яшчэ да распаду Савецкага Саюза распрацаваў і надрукаваў канцэпцыю стварэння беларускага войска, якая была рэалізавана пасля атрымання нашай краінай незалежнасці. У пачатку 1991 года ў знак пратэсту супраць падаўлення танкамі дэманстрантаў у Вільнюсе выйшаў з КПСС. 20 жніўня 1991 года адзіны з вайскоўцаў у Беларусі публічна выступіў супраць путчу ў Маскве. Тады ж аб'явіў аб стварэнні Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ), якое паставіла на мэце стварэнне беларускага войска, абарону незалежнасці і гісторыка-патрыятычнае выхаванне грамадства».

Адмыслова раю звярнуць увагу на даты. Тады яшчэ ніхто не ведаў, на чым баку будзе перамога. Затое адназначна можна сцвярджаць іншае: вайсковец Мікола Статкевіч вельмі добра ведаў, што чакае асабіста яго і паплечнікаў у выпадку паразы.

І яшчэ адзін важны момант. У 1993 годзе Мікола Статкевіч выступіў супраць Дамовы аб калектыўнай бяспецы з ваюючымі краінамі (Арменія, Таджыкістан і інш.), па ўмовах якой Беларусь павінна была накіроўваць сваіх салдатаў на чужыя войны. За гэта яго звольнілі з вайсковай службы. За месяц да плануемай абароны доктарскай дысертацыі.

Пасля шырокай грамадскай кампаніі ў падтрымку Статкевіча беларускі парламент ратыфікаваў усё ж Дамову аб калектыўнай бяспецы ўсё ж ратыфікаваў, але з умовай не адпраўляць нашых салдат у «гарачыя кропкі».

## Партыйны калейдаскоп

Добра ведаю супрацьлеглыя меркаванні розных людзей пра тое, што адбывалася тады і адбываецца зараз у беларускім сацыял-дэмакратычным асяроддзі. Але мой нарыс — біяграфічны. Таму пакідаю за дужкамі любыя каментары. Абмяжуюся толькі канстатацыяй фактаў і адной рэмаркай: беларускіх сацыял-дэмакратаў можна назваць рэкардсменамі па колькасці ўнутраных расколаў. І ў кожным з іх адным з падводных камянёў была праблема лідарства.

Мікола Статкевіч трапіў у гэты лагер амаль з самага пачатку яго існавання, калі ў сакавіку 1991 года па ініцыятыве Міхася Ткачова была створана Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада. Старшынёй тады абралі Міхася Ткачова, першым намеснікам — Алега Трусава. Праз год, пасля заўчаснай смерці Ткачова, Трусаў стаў на чале партыі і кіраваў ёй да лета 1995 года.

У 1995 годзе замест Алега Трусава старшынёй БСДГ абралі Міколу Статкевіча. У 1996 годзе прайшло аб'яднанне Сацыял-дэмакратычнай Грамады з Партыяй народнай згоды і была створана Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада). Мікола Статкевіч стаў старшынёй БСДП (Народная Грамада).

У 2005 годзе была яшчэ адна спроба аб'яднання і яшчэ адзін раскол. Утварылася БСДП (Грамада), лідарам якой абралі Аляксандра Казуліна. На дадзены момант БСДП (Грамаду) узначальвае Ірына Вештард. Прыхільнікі Міколы Статкевіча сфарміравалі аргкамітэт па стварэнні аднаўленай Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), абралі яго сваім старшынёй.

## Цярністы шлях

За час палітычнай дзейнасці Статкевіч больш за 30 разоў меў адміністратыўныя арышты, якія заканчваліся «суткамі» альбо штрафамі, 3 разы супраць яго распачыналіся крымінальныя справы, двойчы пакаранні не былі ўмоўнымі.

У 2005 годзе разам з Паўлам Севярынцам ён быў асуджаны да 3 гадоў абмежавання свабоды за арганізацыю мірнай дэманстрацыі супраць фальсіфікацыі вынікаў рэферэндуму. Па выніках гэтага рэферэндуму прэзідэнт атрымаў права знаходзіцца ва ўладзе неабмежаваную колькасць тэрмінаў.

На «хіміі» год працаваў электрамеханікам на прадпрыемстве ў Баранавічах, потым слесарам у калгасе. У 2006 годзе міжнародная арганізацыя «Amnesty International» прызнала Мікалая Статкевіча вязнем сумлення. У ліпені 2007 года яго вызвалілі па амністыі.

У 2009 годзе кангрэсам «Еўрапейскай кааліцыі», лідарам якой Статкевіч з'яўляецца з 2003 года, ён быў вылучаны ў якасці кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года. 19 снежня 2010-га прымаў удзел у дэманстрацыі на плошчах Кастрычніцкая і Незалежнасці. Пасля разгону акцыі быў затрыманы.

26 мая 2011 года ў Ленінскім судзе горада Мінска суддзя Людміла Грачова вынесла прысуд: 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. На дадзены момант Мікола Статкевіч — адзіны былы кандыдат у прэзідэнты, які застаецца за кратамі.

Усе падрабязнасці яго арышту і вандровак па калоніях пералічваць не буду. Раю ў віртуальнай бібліятэцы паглядзець мае кнігі «Супраць плыні» і «Жыццё пасля кратаў». Адрас http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=20069. Пра ўсё вельмі дакладна там расказвае жонка Міколы Марына Адамовіч.

Галоўнае, што вызначае палітычны лёс Міколы Статкевіча, гэта тое, што пры любых абставінах ён трымаецца праўды. За гэта сённяі пакутуе. Але не падпісвае аніякіх пакаянных лістоў і прашэнняў аб памілаванні.

З НАГОДЫ

# ЕГІПЕТ: КРЫЗІС ІСЛАМІСТАЎ

Алег НОВІКАЎ

**Прэзідэнт Егіпта Мухамед Мурсі, які быў адхілены ад улады ўвечары 3 ліпеня, знаходзіцца пад кантролем вайскоўцаў. «Ён затрыманы прэвентыўна для будучых крокаў», — цытуе брытанская прэса ананімнага прадстаўніка арміі.**



Крызіс рэжыму егіпецкага прэзідэнта Мурсі можна таксама лічыць глабальным ударам па дактрыне палітычнага ісламу.

Адна з самых любімых сённяшніх тэм у сусветнай прэсе — параўнанне Егіпта 2013-га з Егіптам 1952-га года. Падставы, каб у думках падарожнічаць у часе, сапраўды існуюць. Цяперашні рэжым прэзідэнта Мухамеда Мурсі шмат каму нагадвае адміністрацыю прэзідэнта Мухамеда Нагіба, які, як і Мурсі, абапіраўся на рух «Браты-мусульмане».

60 гадоў таму няздольнасць Нагіба нармалізаваць сітуацыю ў краіне падштурхнула афіцэраў. У выніку вайсковага путчу тады да ўлады прыйшоў славуты палкоўнік Насер. Сёння — генерал Абдэль Фаттах аль-Сісі.

На гэтым, праўда, супадзенні паміж 1952 і 2013 гадамі заканчваюцца. У 1952-м «Браты-мусульмане» пайшлі ў апазіцыю, захаваўшы вялікі аўтарытэт у грамадстве. Яны, будучы хутчэй прапагандысцкім рухам, а не партыяй, сталі галоўнымі фронтмэнамі супраціву дыктатуры вайскоўцаў. Нягледзячы на рэпрэсіі, «Браты-мусульмане» здолелі застацца вядучай апазіцыйнай палітычнай сілай да студзеньскіх падзей 2012 года на плошчы Тахрыр. Егіпецкая рэвалюцыя 2012-га адчыніла ім шлях ва ўладу. Партыя свабоды і справядлівасці — палітычная вітрына руху «Братоў-мусульман», зараз кантралюе 49 працэнтаў дэпутацкага корпусу ў парламенце. Прэзідэнтам краіны з'яўляецца яе лідар Мухамед Мурсі. Дзеючая канстытуцыя краіны таксама была напісаная пад дыктоўку ідэолагаў «Братоў-мусульман».

Але сёння, пасля прыходу да ўлады арміі, ісламісты сыдуць у апазіцыю з зусім іншым палітычным капіталам. Вось як апісвае сітуацыю іспанская газет «El Pais»: «Егіпет знаходзіцца на краі прорвы. Праз год пасля інаўгурацыі Мухамеда Мурсі на пасадзе прэзідэнта, краіна перажывае сур'ёзны палітычны, эканамічны і сацыяльны крызіс. Надзеі шматлікіх сектараў егіпецкага грамадства на «Братоў-мусульман» не спраўдзіліся».

Гэтыя высновы пацвярджаюць вынікі некаторых сацыялагічных апытанняў. За адзін год папулярнасць Мурсі ўпала з 70 да 40 працэнтаў. Пры гэтым 62 працэнтаў апытаных кажуць, што зараз яны жывуць горш, чым два гады таму, а яшчэ 72 не лічаць «Братоў-мусульман» дэмакратычнай арганізацыяй. Важная рэч: 54 працэнты апытаных выступаюць за дэмакратычную мадэль грамадства. Гэтыя дадзеныя апублікаваў амерыканскі часопіс «Foreign Policy», які пракаментаваў прадстаўленыя лічбы так: «Мы ўсе сведкі незвычайнага працэсу — заходу дамінавання ісламістаў у Егіпце».

Ёсць думка, што ісламісты аказаліся ў прынцыпе не здольнымі прапанаваць сапраўдную сацыяльна-эканамічную альтэрнатыву. Часткова з гэтым можна пагадзіцца. Асабліва, калі пагартаць выбарчую праграму Партыі свабоды і справядлівасці. Эканамічны блок дакументу — гібрыд пастулатаў дзяржаўнага інтэрвенцыяналізму і ідэй свабоднага рынку. З аднаго боку — барацьба з імпартам за кошт развіцця айчынных сектараў вытворчасці, прыняцце дзяржаўнага плана эканамічнага развіцця, падпарадкаванне працы бізнэсу контурам гэтага плану, наданне прыярытэту айчынным прадпрымальнікам падчас прыватызацыі. З іншага боку, прыцягненне замежных інвестыцый, стварэнне вольных эканамічных зонаў, зніжэнне падаткаў для бізнэсу.

Ісламісты аказаліся ў прынцыпе не здольнымі прапанаваць сапраўдную сацыяльна-эканамічную альтэрнатыву

Даючы сваю ацэнку праграме партыі Мурсі, інтэрнэт-выданне «Midanmasr» пажартавала: «З праграмы Мурсі можна зразумець толькі адно. Яго ўрад хоча знішчыць адзіны працуючы ў краіне сектар эканомікі — турызм. Інакш для чаго ў праграме абяцаюць забараніць алкаголь і ўвесці гендэрную сегрэгацыю на пляжах?»

У выніку эканамічная палітыка ісламістаў, па словах таго ж выдання, звялася да мантры «барацьба з карупцыяй». «Midanmasr» піша: «Фразу «барацьба з карупцыяй» можна апісаць як панацэю. Сітуацыя прыкладна выглядае так. Пытанне міністру: «Якім чынам мы можам стымуляваць эканамічны рост?» Адказ: «За кошт барацьбы з карупцыяй». Пытанне: «Браты-мусульмане» традыцыйна падтрымліваюць ідэю прадстаўлення крэдытаў суб'ектам малога бізнэсу, каб забяспечыць сябе палітычную падтрымку. А як зараз ідзе праца над развіццём праграмы мікракрэдытавання?» Адказ: «Калі мы будзем змагацца з карупцыяй, то ўсё астатняе стане на свае месцы». Барацьба з карупцыяй з'яўляецца лаканічным адказам міністрам на ўсе пытанні».

У выніку ўраду заставалася рабіць толькі адно: захаваць усё, як было пры мінулым рэжыме, які, дарэчы, праводзіў антысацыяльную палітыку. Аднак Мубарак праводзіў рабіў гэта ў іншых умовах. У час цяперашняй нестабільнасці іншаземцаў, жадаючых укладаць сродкі ў тутэйшую эканоміку, практычна няма. Вынікам эканамічнага хаосу і працягам падзення сацыяльнай дапамогі стаў, па словах газеты «Guardian», «разрыў сацыяльнага кантракту «Братоў-мусульман» і насельніцтва».

Некаторыя палітолагі спісваюць цяперашні правал рэжыма Мурсі на наступствы ідэйнага крызісу сярод «Братоў-мусульман» у 1990-я гады. Тады стаўка рабілася не на прапаганду ісламскага вучэння, а на ўдзел у выбарах. Прыход «Братоў-мусульман» у егіпецкі палітычны працэс суправаджаўся спробамі фундаментальнай рэвізіі старых догмаў.

Так, тэхнакратычная генерацыя, да якой належыць Мурсі, або, як іх называлі, «Тэхна-браты», прыдумала канцэпт «Грамадзянская дзяржава з ісламскай крыніцай улады» ў якасці альтэрнатывы традыцыйнай канцэпцыі «Братэрства — «hakimiyyah», якая патрабе будаўніцтва шарыяцкай дзяржавы, як кажуць тут і цяпер. Па сутнасці, гаворка ішла пра імпарт у Егіпет мадэлі турэцкага памяркоўнага ісламізму Эрдагана. Наватарам удалося заблакаваць галоўных апанентаў з фракцыі артадоксаў, аднак нізавы актыў па інерцыі лічыў, што рух «Братоў-мусульман» мае радыкальны характар.

Гэтая праграмная супярэчнасць паміж партыйнай элітай і грамадствам так і не была вырашаная. Яе вынікі Мухамед Мурсі пажынае сёння, калі, бясконца лавіруючы паміж прагматызмам і радыкальнай рыторыкай, губляе ініцыятыву і падтрымку выбаршчыкаў, дыскрэдытуючы ідэю.

Акрамя «Братоў-мусульман» у Егіпце сёння шмат іншых ісламісцкіх палітычных партый. Тыя ж больш радыкальныя салафісты, якія набіраюць па 25 працэнтаў. Натуральна, яны паспрабуюць заняць нішу «Братоў-мусульман». Аднак фішка ў тым, што «Браты-мусульмане» — практычна першая ў гісторыі ісламская палітычная арганізацыя. Яны былі сапраўдным міфам, легендай у вачах усіх мусульман. З крызісам «Братоў-мусульман» пачынаецца фрагменталізацыя (у тым ліку арганізацыйна і ідэалагічна) усяго ісламскага руху ў Егіпце.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АРСЕНЬ ЯЦЭНЮК



Яцэнюк — лідар вядучай украінскай апазіцыйная партыі «Бацькіўшчына». Аднапартыйцы зноў падазраюць яго ў здрадзе на карысць Партыі рэгіёнаў. Падазрэнні выклікала рашэнне дэпутатаў фракцыі «Бацькіўшчына» падтрымаць ідэю святкавання ў наступным годзе на афіцыйным узроўні 200-й гадавіны з дня нараджэння брытанскага прадпрымальніка Джона Х'юза — заснавальніка горада Юзаўка, які з часам перайменавалі ў Данецк. Аднак такая версія нараджэння на Данбасе індустрыі ніколі не падабалася нацыянальна свядомай грамадскасці. Яна даводзіць, што задоўга да гэтага на месцы заснаванага Х'юзам пасялення жылі запарожскія казакі. Прынамсі ў летапісах угадваецца вёска Аляксандраўка, жыхары якой, быццам, нават адкрытым спосабам капалі вугаль. Акрамя таго, дэпутаты звярнулі увагу на адсутнасць сацыяльнай адказнасці ў бізнэсе Х'юза. Ён жыў у асобнай віле, у той час як шахцёры — у прымітыўных хібарах. Культ Х'юза, быццам, легалізуе цяперашнюю дзікую сацыяльную палярызацыю ў Данбасе, дзе ўсім валодаюць алігархі, якім, як і таму брытанцу, абыякавы сацыяльны стан працоўных. Прыхільнікі Яцэнюка, у сваю чаргу, кажуць пра тое, што на носе 80-я гадавіна паэта Васіля Стуса, аднаго з галоўных украінскіх антысавецкіх дысідэнтаў 1970-х гадоў. Аднак без галасоў Партыі рэгіёнаў у Вярхоўнай Радзе юбілей ніколі не атрымае статус дзяржаўнага свята. Таму тактычна правільна было падтрымаць, сапраўды, трошкі дзіўную прапазіцыю Партыі рэгіёнаў наконт Х'юза.

### АНГЕЛА МЕРКЕЛЬ



Нямецкія газеты пішуць, што канцлер ФРГ дапусціла фатальную памылку, не наклаўшы вета на ўваходжанне Харватыі ў склад Еўрасаюза. Нагадаем, што Харватыя стала 28-й краінай аб'яднання 1 ліпеня. На думку прэсы, уключыць Харватыю ў ЕС — амаль тое ж, што прыняць «другую Грэцыю». У доказ прыводзіцца харвацкая эканамічная статыстыка. ВУП краіны складае смешныя 0,2 працэнта, колькасць беспрацоўных — 21 працэнт (для працаздольных ва ўзросце да 25 гадоў — 50 працэнтаў). Плюс жудасная бюракратыя (кожны трэці працаўнік-харват — чыноўнік). Відавочна, што такая мадэль без знешняй дапамогі стоадсоткава ляснецца, а дапамагаць харватам (так, прынамсі, піша нямецкая прэса), хутчэй за ўсё, давядзецца немцам, што абавязкова адлюструецца на рэйтынгу Меркель. Між тым, харваты, якія доўга ішлі ў ЕС, здаецца, самі страцілі аптымізм, назіраючы за працэсамі ў ЕС. Зараз толькі 40 працэнтаў задаволеныя уняй з Брусэлем. Іншыя баяцца, што сяброўства паскорыць рынкавыя рэформы, якія зломяць няхай і не заможную, аднак звыклую формулу жыцця. Аптымісты ў сваю чаргу кажуць, што ЕС яўна разлічвае на хуткую інтэграцыю ў свой склад Сербіі. Каб паказаць сербам бонусы ад уваходу ў Еўропу, Брусэль не будзе фарсіраваць рэформы і адначасова не пакіне Харватыю без субсідый.

### ДАЛАЙ ЛАМА



Наяўнасць у дамах тыбетцаў выяваў Далай Ламы больш не будзе цягнуць за сабой крымінальнае пакаранне (адпаведны артыкул быў уведзены ў кітайскі Крымінальны кодэкс 17 гадоў таму). Такое рашэнне, калі верыць Радыёстанцыі «Вольная Азія», на днях прынялі ў Пекіне. Легалізацыя выяваў — частка новай тыбецкай палітыкі, якую, быццам, вось-вось збіраецца запусціць Кітай. У аснове новага курсу — ідэя падзяліць палітыку і рэлігію. Наяўнасць выявы Далай Ламы не будзе крыміналам пры ўмове таго, што ўладальнік партрэта бачыць у выяўленай на ім асобе не палітыка-сепаратыста, а выключна духоўнага гуру. Як кітайскія ўлады будуць выяўляць гэтую тонкасць, цяжка сказаць. Аднак у некаторых манастырах Тыбету, калі верыць BBC, эксперымент сапраўды пачаўся. Эксперты не ведаюць дакладнага адказу на пытанне, нашто Пекіну цяпер патрэбны новы курс. Аднак, безумоўна, адзін з фактараў яго з'яўлення — перманентная палітычная напружанасць у рэгіёне. На працягу апошніх двух гадоў 120 тыбетцаў (галоўным чынам манахі) публічна спалілі сябе ў знак пратэсту супраць кітайскай каланіяльнай палітыкі.

ЦІКАВА

# ДЗЁННІК «ФІЛОСАФА»

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Успаміны звычайных жыхароў Заходняй Беларусі з'яўляюцца каштоўнымі дакументамі па гісторыі гэтага рэгіёну. Адзін з такіх дакументаў — успаміны Юзафа Антонавіча Рыбалтоўскага з вёскі Ішкалдзь Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Дзённік напісаны ў ліпені 1931 года і ахоплівае ўсяго некалькі дзесяцігоддзяў XX стагоддзя, аднак яго матэрыялы з'яўляюцца яскравай ілюстрацыяй тых нялёгкіх для жыхароў Заходняй Беларусі часоў.**



Салдаты Войска Польскага, сярод якіх і старэйшы сын Рыбалтоўскага



Паштоўка ад Юзафа-малодшага (з выявай палацу з Жэмыслаўе)

## Гісторыя братоў

Дакладна не вядома, калі Юзаф Рыбалтоўскі нарадзіўся. Адзін з яго братоў Жыгімонт у 1899 годзе з'ехаў з Ішкалдзі ў Пецярбург і хутка ўладкаваўся на службу ў горны дэпартамент у якасці дзяржаўнага чыноўніка. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года ён пераехаў у Маскву, а пасля кастрычніцкага перавароту (Юзаф Рыбалтоўскі выкарыстоўвае менавіта гэтае акрэсленне — І.М.) Жыгімонт вярнуўся на радзіму. Другі брат Кастусь увесь час заставаўся дома, і калі ў 1902 годзе памірае іх бацька Антоній, менавіта Канстанціну прыйшлося займацца пахаваннем. Справа ў тым, што сам Юзаф у гэты час быў на службе ў Рускай імператарскай арміі.

«Пасля смерці бацькі ўсёй маёмасцю распараджаўся Канстанцін, бо я вярнуўся з войска толькі ў лютым 1906 года. З маёмасці бацькі мне засталося 7 дзесяцін зямлі і лугу, а яшчэ дзве дзесяціны я набыў з дапамогай крэдыту Сельскагаспадарчага сялянскага банку, які я павінен быў выплачваць да 1914 года», — піша ў сваім дзённіку Юзаф Рыбалтоўскі. У красавіку 1907 года ў Ішкалдзь прыехаў сталічны франт Жыгімонт, які, не жадаючы займацца сялянскай працай, аддае свой кавалак зямлі братам, папярэджваючы іх, што зараз зямля яму не патрэбна, аднак, магчыма, прыйдзе час, калі ён забярэ сваю частку спадчыны. Браты Юзаф і Кастусь падзялілі зямлю і жывёлу пароўну і спакойна займаліся сялянскай працай.

## Ішкалдскі гастарбайтар у Піцеры

Юзаф займаўся яшчэ і настаўніцтвам. У сябе ў хаце ён рабіў заняткі для вясковых дзяцей па рускай і польскай мовах. Ужо тады ў гэтага чалавека з'яўляюцца першыя кнігі па гісторыі і літаратуры (у 1920–1930-я гады Юзафу Рыбалтоўскаму ўдалося сабраць багатую і цікавую бібліятэку па гуманітарных навуках — І.М.). Хутка гэты чалавек вырашае папрацаваць у вялікім горадзе і выязджае да брата ў Пецярбург. Юзаф Антонавіч уладкоўваецца на працу ў Галоўпаштамт сталіцы Расійскай імперыі. «Папрацаваўшы там 8 месяцаў, прыйшлося мне звольніцца. Кіраўніцтву не падабаліся мае «польскія» карані. У 1912 годзе я вырашыў вярнуцца ў Ішкалдзь», — адзначае Рыбалтоўскі ў дзённіку.

## Дэпутат салдацкага савету

У 1914 годзе пачынаецца Першая сусветная вайна. Юзаф Антонавіч ізноў паступае на службу ў Рускую імператарскую армію. Дома засталіся жонка і трое сыноў, якім было 7, 5 і 2 гады. У 1916 годзе Рыбалтоўскага накіравалі на Румынскі фронт у артылерыю, дзе ён удзельнічаў у баявых дзеяннях на рацэ Сірэт. Падчас баявых дзеянняў Юзаф Антонавіч быў паранены ў нагу, і гэтая рана пазней часта нагадвала пра сябе.

Расійская імперыя дажывала апошнія дні. Пад уплывам паразаў на франтах і пад уздзеяннем бальшавіцкай агітацыі разлагалася руская армія. У траўні 1917 года бамбардзір 3-га парка 23-га артылерыйскага дывізіёна Юзаф Рыбалтоўскі накіроўваецца ў Адэсу для ўдзелу ў Абласным і Франтавым з'ездзе Саветаў рабочых, салдацкіх і афіцэрскіх дэпутатаў Румынскага фронту ў якасці дэпутата. Хутка ў яго кішэні ўжо ляжала пасведчанне нумар 1755.

Для селяніна з Заходняй Беларусі ідэі бальшавікоў былі чужымі, і як толькі прадстаўляецца магчымасць, Рыбалтоўскі вяртаецца дадому. «Усё было разбурана вайной і нямецкай акупацыяй. А як інакш, калі наша хата знаходзілася ў 16 вёрстах ад фронту. Але жонцы ўдалося зберагчы гаспадарку», — піса ў дзённіку Рыбалтоўскі. Напрыканцы 1918 года з Масквы разам з жонкай і дзецьмі прыехаў Жыгімонт Антонавіч. Браты Кастусь і Юзаф размясцілі яго ў сябе.

## «Нулявыя Саветы»

Хутка Заходняя Беларусь апынулася пад бальшавіцкай акупацыяй. У польскай гістарыяграфіі існуе паняцце «Першыя Саветы», пад якім разумеецца перыяд з верасня 1939 — па чэрвень 1941 гадоў, калі Заходняя Беларусь апынулася ў складзе СССР. Атрымоўваецца, што той кароткі перыяд у 1919–1920 гадах, калі заходнебеларускія тэрыторыі знаходзіліся пад савецкай уладай, можна назваць «Нулявымі Саветамі». Часу пагаспадарыць на гэтых землях у бальшавікоў было няшмат, але крывавых спраў яны паспелі нарабіць багата. «16 сакавіка 1919 года бальшавікі зачынілі наш, ужо аднавіўшы сваю працу пасля забароны царскіх улад, касцёл, а ксёндз Латарэвіч быў арыштаваны і адпраўлены ў Мір», — успамінаў сведка часу Юзаф Рыбалтоўскі.

Разам з братам Жыгімонтам ён едзе да бальшавікоў, каб дамовіцца пра вызваленне святара. «Хадакоў» арыштоўваюць як контррэвалюцыянераў і разам з ксяндзом накіроўваюць у Навагрудак. Там гэтых людзей трымалі тры дні. Уночы з 18 на 19 сакавіка Рыбалтоўскіх адправілі ў распараджэнне Надзвычайнай камісіі ў Мінск, а ксяндза з Ішкалдзі і яшчэ аднаго чалавека па празвішчы Карнутоўскі адвезлі ў Мірскі замак і… расстралялі. У турме ў Мінску браты Рыбалтоўскія знаходзіліся 10 тыдняў. Пасля гэтага іх нечакана адпусцілі. Жыгімонт адразу збег у Баранавічы, таму што там знаходзіліся падраздзяленні Войска Польскага, а яго сям'я працягвала жыць у дамах Кастуся і Юзафа.

Сам Юзаф Антонавіч баяўся вяртацца дахаты. Бальшавіцкія ўлады не аднойчы заходзілі да яго жонкі і пыталі, дзе муж, таму ён вымушаны быў хавацца ў лесе. «Калі польскія войскі ў 1919 годзе вызваляюць нашу вёску ад бальшавікоў, брат Жыгімонт стаў сакратаром раённай управы ў Міры і забраў сваю сям'ю ад нас», — адзначаў Юзаф Антонавіч ва ўспамінах.

Хутка бальшавікі пачынаюць наступленне ў кірунку Варшавы — і ўлада зноў змяняецца. Жыгімонт з'язджае на захад у Познанскае ваяводства. У сваю чаргу Юзаф быў мабілізаваны бальшавікамі ў абоз і накіраваны ў Слонім. Аднак па дарозе да мястэчка на абоз налятае польская кавалерыя. Бальшавікоў расстрэльваюць, а сялян адпускаюць. Праўда, коней і падводы палякі забралі. Так, па прызнанні Юзафа Антонавіча, ён пазбавіўся адной з галоўных сваіх прылад працы.

## Мірнае жыццё

Пасля Рыжскай мірнай дамовы ў 1921 годзе Заходняя Беларусь увайшла ў склад II Рэчы Паспалітай. У гэтым жа годзе на радзіму вяртаецца Жыгімонт Рыбалтоўскі і займае высокую пасаду ў кіраўніцтве гмінай Мір. Нарэшце, у сям'і Рыбалтоўскіх пачынаецца мірнае жыццё. Паміж братамі (асабліва Жыгімонтам і Юзафам — І.М.) адбываліся маёмасныя спрэчкі, аднак іх удавалася вырашыць на сямейным савеце. У 1929 годзе са службы ў Войску Польскім вяртаецца старэйшы сын Юзафа Антонавіча. Бацька выдае яму 30 злотых і накіроўвае ў Варшаву. Маўляў, у сталіцы заўсёды больш магчымасцяў.

Пры гэтым варта разумець, што эканамічнае становішча гэтага чалавека было далёка не стабільным. Захаваўся адказ на ліст Рыбалтоўскага ў Польскую страхавую кампанію, датаваны чэрвенем 1934 года, у якім прадстаўнікі афіцыйнай структуры адмаўляюць знізіць кошт аплаты за страхоўку ад пажару.

## Замест БКА ў «касцюшкаўцы»

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна, а праз 17 дзён на тэрыторыю Заходняй Беларусі прыходзіць Чырвоная Армія, і пачынаюцца «Першыя Саветы». Аднак ужо праз два гады Трэці рэйх нападае на Савецкі Саюз, і яшчэ не паспеўшая стаць савецкай Заходняя Беларусь апынулася пад нямецкай акупацыяй. Юзаф Рыбалтоўскі працягваў жыць як звычайны селянін. Працаваў на сваёй зямлі, плаціў падаткі.

Сын Рыбалтоўскага Юзаф Юзафавіч ледзь не трапіў на службу ў… Беларускую Краёвую абарону. Пра гэта сведчыць пасведчанне аб адтэрміноўцы ад службы, выдадзенае 11 сакавіка 1944 года мабілізацыйнай камісіяй у мястэчку Гарадзішча. Апрануць чорны паліцэйскі мундзір Рыбалтоўскі-малодшы не паспеў. Хутка тэрыторыя Беларусі была вызвалена ад немцаў, а хлопец трапіў на службу… у Народнае Войска Польскае і з ім дайшоў да Берліна. На гэтым, на жаль, нашы веды пра гэтую сям'ю абрываюцца.

Жыхары Ішкалдзі да сённяшняга дня з вялікай павагай успамінаюць «філосафа» Рыбалтоўскага. «Чаму ж філосаф?» — пытаюся іх. «Дык вельмі разумны і адукаваны чалавек быў. І сям'я ў яго такая ж добрая была. На такіх зямля наша трымаецца», — адказваюць аднавяскоўцы.



Kreisverwaltung
Finanzabteilung
Dnia 8-VI-1943
№ 65

Падатак 1943 года (на беларускай мове)



MABILIZAC.KAMISIJA
Haradzisca
Dnia ..11.IV.....1944
Nr 1150....

Casovaje pasviedcannie.

Vydana hr-nu Rybaltouski Jozeb s. Jozeba
narodz. hodu ....... u tym, sto jon pa rasenniu
Mab. Kamisiji pryznany hodnym (niahodnym) pa stanu
zdarouja da vajskovaj sluzby pa katehorji ..A....,
sto i scviardzajecca.-

MAB.KAMISIJA

Мабілізацыйная картка Юзафа Юзафавіча, 1944 г. в БКА

СПАДЧЫНА

# УКРАІНЕЦ, ЯКІ ПРАЦАВАЎ НА БЕЛАРУШЧЫНУ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Украінскія выданні, якія пісалі і пішуць сёння пра свайго знакамітага кампазітара і патрыёта Міхайлу Гайваронскага (1892–1949), заўсёды згадваюць 1938 год: «Особливо творчим для композитора був 1938 рік. Михайло Гайворонський опрацював білоруські народні пісні, оркестрові твори, видав ще два скрипкові твори «Прелюдія» і «Сонатіна» для скрипки з фортепіано».**



Міхайла Гайваронскі

Сапраўды, вялікі ўкраінскі кампазітар, музыкант, дырыжор, педагог, скрыпач, грамадскі дзеяч, капельмайстар арміі Украінскай Народнай Рэспублікі Міхайла Гайваронскі ў канцы 1930-х гадоў шмат працаваў для музычнай Беларусі. Асабліва плённым на беларускія песні быў менавіта 1938 год. Жыў тады кампазітар у Нью-Ёрку. Але яго там знайшоў Рыгор Шырма і напісаў яму ліст. Беларус і ўкраінец сталі ліставацца. Так пачалося іх сяброўства.

Сам Міхайла Гайваронскі быў родам з Цярнопальшчыны. Маці ведала шмат народных песень, а бацька добра іграў на скрыпцы. У іх і вучыўся будучы кампазітар музыцы і спевам.

Пасля заканчэння народнай школы, паступіў у настаўніцкую семінарыю. Там наведваў аркестр семінарыі, спрабаваў пісаць музыку.

Пасля заканчэння семінарыі Міхайла Гайваронскі пачаў працаваць настаўнікам недалёка ад Львова.

У 1914 годзе Міхайла Гайваронскі ўступае ў шэрагі Украінскіх Сечавых Стральцоў. Там арганізуе духавы аркестр, а потым становіцца капельмайстрам войск Украінскай Народнай Рэспублікі. Піша стралецкія песні і маршы.

У 1923 годзе Міхайла Гайваронскі пакідае Радзіму і эмігрыруе ў ЗША. У Нью-Ёрку ён арганізуе хор і аркестр, а таксама паглыбляе свае музычныя веды ў Калумбійскім універсітэце.

Найбольш вядомымі творамі ўкраінскага кампазітара з'яўляюцца яго сімфанічная паэма «Над Чорным морам», «Гераічная паэма», «Гуцульская рапсодыя», рапсоды «Доўбуш», «Родная старонка мая», маршы, уверцюры, струнны квартэт «Мазенко», трыа «Каламійка», зборнік п'ес для струннага аркестра, ён з'яўляецца аўтарам багатых інструментальных твораў камернага характару, напісаў шэраг песень на словы Тараса Шаўчэнкі: «Запавед», «Вучыцеся, браты мае», «Садок вішнёвы» і многія-многія іншыя.

Міхайла Гайваронскі пражыў усяго 57 гадоў. Ён памёр 11 верасня 1949 года ў Нью-Ёрку, дзе і пахаваны.

А цяпер вернемся ў 1938 год. Часопіс «Беларускі летапіс» за кастрычнік-снежань 1938 года пісаў: «Кампазітар М. Гайваронскі скампанаваў на мяшаны хор дзве беларускія песні да слоў Максіма Танка: «Спакойна дрэмле Нарач» і «Прайдуць гады». Гэтыя кампазіцыі запачаткавалі новы кірунак у беларускай харавой літаратуры — кірунак свабоднай творчасці, — распачалася такая патрэбная праца музычнага ілюстравання нашай паэзіі. Вялікая падзяка і чэсць слаўнаму кампазітару!».




Выстава на радзіме М. Гайваронскага да яго 120-годдзя

Паэзію Максіма Танка вельмі ўпадабаў Міхайла Гайваронскі.

**Слухаючы беларускія песні ў апрацоўцы Гайваронскага, нават не ведаючы тэксту, мы даведаемся, што гэта звіняць валачобнікі або пяюць каляднікі**

10 снежня 1938 года ў Вільні выступаў хор пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Менавіта хор і выканаў упершыню кампазіцыю Гайваронскага на словы Максіма Танка. А часопіс «Калоссе» ў 1939 года адзначаў, што кампазіцыя Гайваронскага на словы Максіма Танка захоплівае свежасцю і сілай малюнка. Але дзеля гэтага трэба добра ўчытацца ў тэкст літаратурнага твора, а таксама аднагачасова ўслухацца ў яго вольную ілюстрацыю, каб цалкам ацаніць сінтэтычную мастацка-жывапісную яркасць, дакладнасць і гармонію ўсяго паэтычна-музычнага твора. Але апрача вонкавай, так бы мовіць, красы, вобраз Нарачы мае, як і сам верш Максіма Танка, характэрны ўнутраны сімвалізм, які надзвычай выразна выяўляе і падкрэслівае музыка Міхайлы Гайваронскага. Той самы часопіс «Калоссе» (1939, №1) пісаў, што «асабліва трэба адзначыць і музыку Гайваронскага на сільны верш Танка «Прайдуць гады», як адзіны вынятак з усёй чыста народнай праграмы».

Пісаў музыку ўкраінскі кампазітар і да вершаў Якуба Коласа і Паўлюка Труса. Кожны з твораў гэтых паэтаў быў прадуманы, і музыка кампазітара была цесна сплецена з тэкстамі. Пачуцці паэтаў кампазітар адбіваў і дапаўняў гармоніяй сваёй музыкі.

Летам 1938 года з Нью-Ёрку Міхайла Гайваронскі дасылае Рыгору Шырму сем апрацаваных для хору беларускіх народных песняў. Сярод іх — «Гэй, паехаў сын Даніла», «О-ю-ля-лю», «Замуж пайсці, трэба знаць». А восенню 1938 года Рыгор Шырма зноў атрымаў ад Гайваронскага пяць новых беларускіх народных песняў: «Лявоніха», «Ой, гукнула сыраежка» (жніўная), «Ой, у полі дзве птушачкі» (рэкруцкая), «Як пайшоў Мікола» (валачобная), «Ой, ляцелі, ды два галубочкі» (валачобная). Часопіс «Беларускі летапіс» (1938, №3, верасень) паведаміў, што «стыль і мастацкі характар апрацоўкі гэтых песняў як найболей адпавядаюць духу нашай народнай творчасці». «Беларускі летапіс» нават надрукаваў ноты Міхайлы Гайваронскага да народных песень «О-ю-ля-лю» і «Гэй, паехаў сын Даніла».

Рыгор Шырма і заходнебеларускія выданні ў 1930-х гадах шмат пісалі пра тых, хто дапамагаў беларускай музычнай творчасці. Музычныя апрацоўкі народных беларускіх песень Міхайлам Гайваронскім ацэньваліся як яркая гармонія, такая чыстая і спеўная, прадыктавана народным кантрапунктам, якая ідзе побач з яснай народнай мелодыяй. Пры гэтым яны ніколі не зніжаюць песні да простага, чужога для мастацтва этнаграфізму, але разам з тым і этнаграфічных рысаў песні не мяняюць на штучныя эфекты і прыкрасы. Слухаючы беларускія песні ў апрацоўцы Гайваронскага, нават не ведаючы тэксту, мы даведаемся, што гэта звіняць валачобнікі або пяюць каляднікі. Ад кожнай беларускай песні Гайваронскага вее подыхам свежага паветра нашых лясоў і палеткаў, чуецца пах сенажацяў, абмытых рачнымі хвалямі. Беларуская вёска, стагоддзямі абскубаная, гамоніць у тых гуках нечуванаю дагэтуль моваю — моваю свайго чулага і вялікага сэрца. І гэта ўсё, дзякуючы музыцы вялікага ўкраінскага кампазітара Міхайлы Гайваронскага, які пакінуў нашчадкам у спадчыну шмат цудоўных твораў, што ўвайшлі ў залаты фонд не толькі ўкраінскай, але таксама і нашай беларускай музычнай культуры.



Хор у Нью-Ёрку. Дырыгент — Міхайла Гайваронскі (у трэцім радзе ў цэнтры)

▸ КІНО

# ПАЛІТЫКА ЗОМБІ І БЕЛАРУСЬ

Андрэй РАСІНСКІ

**У зомбі-апакаліптычнай карціне з Брэдам Пітам «Вайна сусветаў Z» падставовую ролю грае Беларусь. Што звязала зомбі і Беларусь?**




Звольнены супрацоўнік ААН Джэры Лэйн (Брэд Піт) вядзе ціхае сямейнае жыццё, пакуль не пачынаецца страшэнная эпідэмія. Людзі пераўтвараюцца ў напаўмёртвых куслівых шалёнцаў, гарады і краіны абрынаюцца адно за адным. Герой мусіць знайсці вытокі хваробы — насуперак ордам шпэці.

Карціна Марка Форстэра, што распачала «пандэмічнае» шэсце па свету, — «паноўна»-бюракратычная стужка на тэму зомбі, прытарнаваная для шырокай аўдыторыі — з 13 гадоў. Фільм пастаўлены паводле бестсэлера Макса Брукса — сына камедыёграфа Мела Брукса. Стужка ўжо сабрала ў пракаце пад 260 мільёнаў долараў і працягвае збіраць ураджай.

У фільме відовішчныя масавыя сцэны — з гарадамі, ахопленымі панікай і хваробай шаленства. Гелікоптэры прылятаюць у самую апошнюю хвіліну, на мур вакол Іерусаліму па лесвіцы з уласных целаў порстка караскаюцца мерцвякі, разгубленыя месцічы крычаць і лякаюцца.

Усё гэта — калі не лічыць падзення Іерусаліму — далёка не самае новае ў жанры. А прыватныя гісторыі, абавязковыя ў карцінах-катастрофах, зусім адыходзяць у цень: важныя вайсковыя аперацыі па ўсім свеце (іншы пераклад назвы стужкі «Зомбі — сусветная вайна»). У гэтых аперацыях ключавы чыннік — арганізацыя грамадства.

Стваральнікі стужкі не хаваюць захаплення Паўночнай Карэяй: каб пазбегнуць заражэння, усім насельнікам за 24 гадзіны выдралі зубы. Іншая гераічная мадэль — беларуская. У самы адказны момант героя Брэда Піта выратоўвае беларускі самалёт. У кадрах колькі разоў з'яўляецца надпіс: «Belarusian Airline» (у кнізе гэта дэталь адсутнічае), пілот мудры, пераканаўчы, адказны: ён вядзе самалёт цвёрдай рукой і аблічам нагадвае кіраўніка Беларусі (і страшна нават падумаць, каго тады сімвалізуюць зомбі, схаваныя ў самалётным падполлі).

Калі ў фільмах-катастрофах 1980-х гадоў усе грамадскія інстытуты цярпелі покрыш, а выратавальнікам з'яўляўся кансерватыўны свабодны герой, то ў «Вайне сусветаў Z» галоўны герой — бюракрат на службе (няхай сабе — адстаўнік), а падставовыя чыннікі выратавання — моцныя чыноўныя інстанцыі, як у асобных аўтарытарных рэжымах, так і сусветныя (ААН). Роля зомбі таксама змянілася.

Першыя зомбі кінаэкрану 1930–1940-х былі павязаныя з магіяй, паэзіяй, этнаграфіяй («Белы зомбі», «Я гуляла з зомбі») — ніхто нікога не кусаў, не паядаў, затое былі шаманы і рытуалы.

Сучасныя зомбі з'явіліся ў 1968 годзе — з «Ноччу жывых мерцвякоў» Джорджа Рамэры. Зомбі ў фільме з'явіліся з ніадкуль, масава — у выніку нетлумачальнай касмічнай і сацыяльнай катастрофы — яны марудна, але ўпарта атакавалі дый перадавалі заразу ўкусам. Карціна сталася метафарай сацыяльных канфліктаў — найперш расавых — і шакавала цэнзуру, якая так і не наважыла даць фільму рэйтынг. Цікава, што новая зомбі-стылістыка звязаная з вампірскім раманам Рычарда Мэтсана «Я — легенда» пра апошняга чалавека на Зямлі, які змагаецца з мірыядамі ўпыроў.

«Досвіткі мерцвякоў» 1978 года і «Дзень мерцвякоў» Рамэры прадоўжылі ягоную лінію сацыяльнай крытыкі, калі не жорсткай сатыры; а працьма іншых аўтараў эксплуатавалі «мясныя» прыгоды зомбі.

На пачатку 2000-х адбыўся новы выбух зомбі-тэмы: «28 дзён пасля» Дэні Бойла, «28 тыдняў пасля» Хуана Карласа Фрэснадыльё і «Зямля мёртвых» Рамэры давалі пераканаўчыя карціны зомбі-апакаліпсіса, а вялікія кінакарпарацыі распачалі эксплуатацыю «Прытулку зла».

Паказальна, што ва ўсіх выпадках росквіт зомбі-карцінаў дакладна папярэднічаў эканамічным крызісам — і прарочыў сітуацыю надыходнага абвалу.

«Вайна сусветаў Z» не мае такога балючага нерву. Гэта зомбі-карціны ва ўмовах стабілізацыі, калі грамадства схільнае давяраць ананімным установам і «моцным правілам».

Беларусь у гэтай зомбі-палітыцы займае пачэснае месца.




▸ АБ'ЯВА

У ліпені і жніўні ў сядзібе ТБМ у межах кампаніі «Будзьма» працягвае працаваць летняя гістарычная школа

**«ГІСТОРЫЯ НА ВАКАЦЫЯХ»**

пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук **Алега Трусава**

На занятках можна будзе пабачыць і абмеркаваць гістарычныя фільмы, знятыя і паказаныя на тэлеканале БелСАТ, будзе праводзіцца гістарычная віктарына, пераможцы якой атрымаюць цікавыя призы.

Падчас заняткаў таксама прадугледжаны абмен думкамі наконт сучаснага стану беларускай мовы і яе функцыянавання ў грамадстве.

Такім чынам, удзельнікі змогуць павысіць свае веды па гісторыі Беларусі і папрактыкавацца ў веданні беларускай мовы.

У ліпені заняткі адбудуцца: **8 ліпеня** (панядзелак), **15 ліпеня** (панядзелак), **29 ліпеня** (панядзелак).

Пачатак а 18-й на вул. Румянцава, 13. Уваход вольны.

▸ ВЫСТАВА

## КАСЦЮМЫ І РЭКВІЗІТ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Калектыў Слонімскага драматычнага тэатра ўпершыню наладзіў і адкрыў выставу тэатральных касцюмаў, рэквізіту і дэкарацый.**




Выставу адкрылі 3 ліпеня ў дворыку новага тэатра, які яшчэ не адкрыўся, але будаўніцтва яго завяршаецца.

На суд слонімцаў выстаўлены касцюмы розных сцэнічных пастановак, як для дарослых, так і юных гледачоў. Гэта касцюмы да спектакляў «Прымакі» па п'есе Янкі Купалы, «Каханне ў стылі барока» па п'есе ўкраінскага драматурга Яраслава Стэльмаха, да дзіцячых спектакляў «Кот у ботах» — касцюмы дракона і льва, касцюм мачахі са спектакля «Папялушка» і многія іншыя.

Як музейныя рэчы наведвальнікі разглядаюць рэквізіт да розных спектакляў: гэта сундукі, капялюшы, інструменты, самаробныя хаткі, грыбочкі, торцікі і г.д.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 786

Падпісана да друку 05.07.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча